 

# ОАС — крывавая рука «УЛЬТРА»

Восьмы год алжырскай вайны распачаўся ў атмасферы канфліктаў, вырашэнне якіх становіцца ўсё больш складанай справай для французскага ўрада. У час сваіх апошніх выступленняў сам дэ Голь намагаўся ўнушыць думку, што не пойдзе на ўступкі ў размовах з алжырскімі паўстанцамі. Такім чынам прэзідэнт Францыі парывае з прынцыпамі, якія яшчэ некалькі год таму назад прапаведваў. Адзначаў ён тады, што калі большасць жыхароў Алжыра і надалей будзе дамагацца самавызначэння, дык французскі ўрад не будзе выступаць супроць гэтых імкненняў. Сведчаннем абвастрэння курса Францыі з'яўляецца зняволенне выдатных кіраўнікоў алжырскага вызваленчага руху разам з намеснікам прэм'ера бен Белай.

У самым Алжыры становішча ўскладняецца; французская тайная арганізацыя разгортвае сваю дзейнасць, гуртуючы вакол сябе рэакцыйныя і фашысцкія элементы. Зараз у цэнтрах, дзе пражывае французскае насельніцтва, улада знаходзіцца не ў руках дэлегатаў французскага ўрада, а менавіта у руках нелегальнай арганізацыі — ОАС. На Захадзе шмат гаворыцца аб яе дзейнасці. Нядаўна «Ле - Монд» змясціў цыкл артыкулаў, прысвечаных абмеркаванню метадаў дзейнасці і палітычных мэт ОАС. Часопіс сцвярджае, што ОАС складае частку штодзённага жыцця Алжыра, што мае дасканалую арганізацыю і карыстаецца магутнай падтрымкай.

ОАС паўстала ў лютым 1961 года на аснове «мадрыцкіх пагадненняў», заключаных паміж удзельнікамі пазнейшага красавіцкага мяцежа. Пасля паражэння гэтага мяцежа арганізацыя перажыла некалькі крызісаў, аднак не спыніла сваёй дзейнасці. Зараз ОАС узначальваецца штабам, які знаходзіцца на тэрыторыі Алжыра. Штаб мае надзейных памочнікаў у асобах кіраўнікоў аддзелаў арганізацыі: разведвацельнага, палітычнага і псіхалагічнай акцыі. Матэрыяльнай асновай дзейнасці ОАС з'яўляюцца складчыны заможных французаў — уласнікаў вялікіх маёнткаў і фабрык. Яны лічаць перамогу ОАС адзіным шанцам свайго існавання на алжырскай зямлі.

А што робіць французскі ўрад і блізка паўмільённая армія, якая знаходзіцца ў Алжыры? Падзеі паказваюць, што яна вядзе барацьбу з алжырскімі паўстанцамі, а на працягу апошніх тыдняў пачала нават выступаць супроць няўзброенага мусульманскага насельніцтва, якое з сімпатыяй ставіцца да фронта нацыянальнага вызвалення.

Улады пятай рэспублікі адносяцца да «ультра» з ОАС з паблажлівасцю і нават пэўным зразуменнем.

Цяжка сёння паверыць, што на алжырскай зямлі запануе мір і свабода, якія так неабходны яе замучанаму насельніцтву.

**Ул. Лазінскі**

# ДРУЖБА ДАПАМАГАЕ Ў ПРАЦЫ

На тэрыторыі ў дзесяткі гектараў сярод старых дрэў раскінуўся буйны польскі трактарны завод — «Урсус». У доўгіх радах зіхацяць пакрытыя свежым чырвоным лакам новыя «сталёвыя коні», падрыхтаваныя да высылкі ў найдалейшыя куткі Польшчы, ды не толькі Польшчы; трактары з фірмовым знакам «Урсус» аруць палі ва ўсіх кантынентах свету.

У дзень маей пабыўкі ў Урсусе, далёка ў Крамлёўскім Палацы распачынаў працу гістарычны XXII з'езд КПСС. Яго атмасферу адчувалася і на трактарным заводзе ў Урсусе пад Варшавай. Калектыў завода абмяркоўваў прывітальныя лісты Прэзідыуму XXII з'езда КПСС і трактарнаму заводу ў Мінску.



**Тав. Прытыцкі (другі справа) гутарыць з прадстаўнікамі урсусаўскага калектыву.**

— З Мінскім трактарным заводам наладзілі мы сувязь ужо даўно — гаворыць Юзэф Пыцлік, рэдактар завадскога тыднёвіка «Голас Урсуса». — Ды сувязь — гэта не зусім адпаведнае слова. Мы ж, так сказаць, выпускаем аднолькавы тавар, трактары. І таму нашыя кантакты не абмяжоўваюцца толькі да афіцыйнага абмену прывітаннямі. Асновай нашых кантактаў з'яўляецца пастаяннае, канкрэтнае супрацоўніцтва. Ажыццяўляецца яно перад усім у практычным абмене вопытам. Таварышы з Мінска прысылаюць нам тэхнічную дакументацыю сваіх навейшых машын, дзелімся дасягненнямі нашых наватараў і канструктараў адносна тэорыі і практыкі ў галіне пабудовы цяжкіх сельскагаспадарчых машын. Паасобныя цэхі нашага завода супрацуюць з адпаведнымі цэхамі ў Мінску. Гэта дае двухбаковую карысць — і нам, і ім.

Вось у мінулым годзе праводзілі мы на сваім заводзе ўпарадкаванне рабочых норм і дасканаленне сістэмы арганізацыі працы. У гэтай галіне Мінскі трактарны завод мае багаты вопыт. Мы тады звярнуліся да мінскіх сяброў за дапамогай у гэтым мерапрыемстве. Таварышы з Мінска не толькі дазволілі пазнаёміцца нам з іхняй арганізацыяй працы і абсталяваннем рабочага становішча, але запрасілі прадстаўнікоў нашага калектыву да сябе. Трыццаціасабовая дэлегацыя нашага завода, якую склалі прадстаўнікі рабочых, майстраў, брыгадзіраў, інжынераў, партыйнага і прафсаюзнага актыву некалькі тыдняў прабывалі на Мінскім трактарным заводзе. Працуючы сумесна з мінскімі рабочымі, нашыя людзі адначасова вучыліся ад іх і засвойвалі іхнія метады працы.

— Ці не маглі б Вы, таварыш Пыцлік, пазнаёміць мяне з кім-небудзь з тых, хто быў на практыцы ў Мінску?

— Калі ласка, — адказвае ён. Мы праходзім праз велізарныя залы цэхаў. Непрывыкшаму чалавеку вушы баляць ад грохату. За станкамі заўважаю шмат жанчын. Яны ў цёмных камбінезонах, на галовах у іх касынкі, рукі чорныя ад смару, якія як бы незаўважальна пераскакваюць з аднаго рычага на другі. Глядзіш на іх, а ў сэрцы нарастае ахвота прыпаднесці ім ружу. На рэфлексіі аднак няма часу. Вось мы ў ліцейным цэху. Таварыш Пыцлік знаёміць мяне з інжынерам Казімежам Шыдэлка.

— Што мне дала практыка ў Мінску? — паўтарае ён маё пытанне і адначасова адказвае: — Канчаткова ўпэўніла мяне, што трэба пакінуць, і то як найхутчэй, старыя, пераказаныя нам у спадчыне праз нашых бацькоў метады прадукцыі, якія яшчэ шырока прымяняюцца ў нас і, на жаль, агульна прызнаюцца, як добрыя.

**(Працяг на стар. 5)**

## БЕЛАСТОЦКАЯ ХРОНІКА

**5.XI. — у Беласток прыехалі савецкія кінаакцёры Эла Леждей, Анатоль Кузняцоў і рэжысёр Якуб Сегель. Яны сустрэліся ў некаторых беластоцкіх кінатэатрах з гледачамі, а таксама з беластоцкімі журналістамі.**

**6.XI. — на ваяводскай акадэміі ў гонар Вялікага Кастрычніка, якая адбылася ў тэатры імя Ал. Венгеркі, у мастацкай частцы выступіў Беластоцкі сімфанічны аркестр з мантажам оперы Чайкоўскага «Яўгеній Анегін». Ролю Вольгі выконвала салістка «Лявоніхі» Ніна Свентахоўская.**

**7.XI. — у Клубе ТППР у Беластоку адкрылася выстаўка савецкага друку.**

**9.XI. — наша рэдакцыя атрымала ад гродзенскіх журналістаў тэлеграму, у якой гродзенцы цёпла дзякуюць за прывітанні, высланыя «Нівай» з выпадку XXII з'езда КПСС і 44 гадавіны Кастрычніцкай рэвалюцыі, і шлюць сардэчныя прывітанні калектыву рэдакцыі і чытачам.**

**14—15.XI. — адбылася сесія Ваяводскай рады нарадовай, прысвечаная зацверджанню гаспадарчага плана і бюджэту на 1962 год, а таксама справам меліярацыі.**

**Інвестыцыйны ліміт беластоцкага ваяводства на 1962 г. складае 2 мільярды злотых (на 16 працэнт больш чым 1961 г.), з гэтага інвестыцыі цэнтральнага плана 815,5 мільёнаў зл., інвестыцыі тэрэновага плана — 1032,1 млн зл. і кааператыўнага — 127,4 млн. зл. Найбольш капіталаўкладанняў пойдзе на сельскую гаспадарку, затым на жыллёвае будаўніцтва, асвету і інвестыцыі камунальныя.**

**Бюджэт ваяводства на 1962 г. замыкаецца на баку даходаў і выдаткаў сумай 2.208.505 тыс. зл.**

**14.XI. — у Беластоку адбыўся I Ваяводскі з'езд Грамадскага супроцьалкагольнага камітэта. Пастаноўлена, між іншым, пабудаваць адвыковы дом для закаранелых алкаголікаў.**




У нямецкай афіцэрскай сталовай звінелі шклянкі і кіпела як у катле. У нямецкай гутарцы, якая гучала ў задымленым пакоі, часам чулася і славацкае слова. У пакоі мітусіліся салдаты з пляшкамі ў руках. Моцна пахла новай уніформай і салёным чалавечым потам.

Новы начальнік гарнізона маёр Гірнер, узнагароджаны Рыцарскім крыжам, сядзеў ля стала на самым пачэсным месцы і тонкімі доўгімі пальцамі пагладжваў грані сваёй шклянкі. Час ад часу ён праводзіў рукой па сівых, гладка зачэсаных валасах або па шраме на шчацэ, падымаў шклянку і піў за здароўе афіцэраў.

Маёр Гірнер запрасіў на ўрачыстую вячэру ўсіх нямецкіх і некалькі славацкіх афіцэраў, але як новы чалавек у гарнізоне, адчуваў сябе крыху няёмка.

22

У кутку ля акна побач з нямецкім обер-лейтэнантам сядзеў Налепка. Уся яго істота абуралася супраць гэтай вымушанай весялосці, у якой калісь і ён шукаў ратунку. Перад вачыма яго паўсталі Сміжанскія паплавы, маленькія белыя хацінкі, усыпанае белым цветам бульбянішча і аплецены маршчынамі твар маці.

Узляцела ціхая, пяшчотная песня, і ад шэлесту яе нябачных крылляў сціхлі афіцэры. Усе глядзелі на Налепку, а песня набірала сілы, мацнела:

Калі б быў я птушкай,
Паляцеў бы за лес,
Паглядзеў бы, што робіць,
Паглядзеў бы, што робіць,
Мая матуленька...

Нават маёр Гірнер прыслухаўся да незразумелых слоў гэтай цудоўнай песні, якая нагадвала яму нейкія экзатычныя краіны.

Ён паглядзеў яшчэ раз на Налепку, які высокім сваім ілбом і быстрымі вачыма нагадваў яму старэйшага сына Эрыха, урача гамбургскага шпіталя, і, нахіліўшыся да камандзіра славацкага палка падпалкоўніка Жака, запытаў:

— Хто гэты спявак?

— Мой ад'ютант, наш найлепшы афіцэр, — пахваліўся падпалкоўнік.

Падпалкоўніку Жаку карцела сказаць, што дзякуючы гэтаму ад'ютанту ён трымае ў руках увесь

23

свой полк, але маёр ужо ўстаў з крэсла. Са шклянкай у руцэ ён няцвёрдым крокам накіраваўся да круглага століка.

— За ваша здароўе, франтавы сябра, — сказаў ён, чокнуўшыся з Налепкам. — Не ведаў, што ў славакаў ёсць такія цудоўныя песні.

— Гэта сумная песня, — усміхнуўся Налепка, круцячы ў пальцах сваю пустую чарку. — Але ёсць у нас і вясёлыя песні.

Ён глянуў на прысутных, уздыхнуў і звярнуўся да маёра:

— Якіх сэрца просіць, тыя і спяваем.

Гэтыя словы зацікавілі маёра Гірнера. Ён бачыў, што мае справу з разумным афіцэрам, з якім прыемна будзе пагаварыць, і даў сабе слова пазнаёміцца з ім бліжэй.

Ён падсеў да століка, паглядзеў з цікавасцю на глыбокую гарызантальную складку, якая прачэрчвала лоб Налепкі, на яго лёгкую ўсмешку і крыху збянтэжыўся.

— Бачу, што чалавек вы сардэчны, — сказаў маёр. — А мне казалі, што вы адзін з найлепшых афіцэраў славацкага палка. Гэта рэдкае суіснаванне двух процілеглых рыс чалавечага характару.

Налепка развёў рукамі і, не адводзячы ад маёра вачэй, сказаў:

— Вы адгадалі, пане маёр. Але што рабіць? І сэрца ёсць, і ваяваць трэба.

24



 

# УСЕБАКОВАСЦЬ ПРАЦЫ ПАТРЭБНА

(Працяг са стар. 1)

**абсальвентам пачатковых школ у працягванні навукі і самаадукацыі на роднай мове.**

— Безумоўна, што так.

**— З таго, аб чым вы на пачатку сказалі, хіба не трэба меркаваць, што Таварыства не будзе ў далейшым інспіраваць аматарскага руху?**

Такой думкі і дапускаць нельга. Будзем пакладаць шчырыя намаганні ў напрамку дасканалення мастацкай самадзейнасці ў існуючых гуртках і арганізаваць новыя. Эстрадны калектыў «Лявоніха» часта і ўсюды ж не даедзе. Мастацкі рух адыгрывае вялікую ролю ў фарміраванні культурнасці вёскі. У снежні бягучага года наладзім 3-тыднёвы культурна-асветны курс у Беластоку, на якім хочам шмат чаго навучыць кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці ў гуртках. Будзем арганізаваць часта 3-днёвыя грамадска-культурныя семінары для старшынь гурткоў БГКТ, на якіх будзем звяртаць увагу таксама на развіццё і дасканаленне мастацкай самадзейнасці ў вёсках. Калі пры гэтым, дык хацеў бы дабавіць яшчэ, што апошнім часам гурткам мастацкай самадзейнасці вялікую матэрыяльную дапамогу даюць ПЗГС-ы. Напрыклад, Гайнаўскі ПЗГС прызначыў сваім гурткам на пакупку народных убораў і музыкальных інструментаў суму 40 тыс. зл.

**Гутарыў: М. КУРАШ**

## ВЕСТКІ З БЕЛАСТОЦКАГА ПАВЕТА

### ІДЗЕ ПАРТЫЙНЫ СХОД

Чысціня, парадак у хаце Вольгі Чэхчэхоўскай у Зубках. Прыгожая мэбля, кветкі, круглы стол, тапчан прыдаюць хаце зусім гарадскі выгляд. На крэслах, на тапчане сядзяць людзі.

— Нам, таварышы, — гаворыць солтыс Марк Цішэўскі, — сорамна так рабіць — узяць абавязацельствы і не выканаць іх. Вадапой для быдла неабходны, праўда? А як мы папрацавалі? Трэба сказаць, што некаторыя з нас дрэнна сябе паказалі. І наш сакратар партыйнай арганізацыі Кірыл Цішэўскі не знайшоў часу прывезці камення. Дрэнна выглядае справа і з аплатай за супольную пашу. За авечкі не збіраюць аплаты.

Некаторыя смела гавораць аб недахопах у працы ПОП, а некаторыя вельмі ж далікатна, каб не абразіўся іх сябра. А ёсць і такія, якія зусім не выступаюць. Відавочна прысутнасць намесніка старшыні Прэзідыума ПРН у Беластоку тав. Алексіна адбірае ім смеласць.

Вольга Цыунчык звяртае ўвагу на павышэнне ўраджайнасці.

— Неабходна нам, — гаворыць яна, — арганізавана на ўсю вёску закувіць вапну і прыступіць да адквашвання глебы. Пара таксама навесці парадак і з засяленнем зямельных няўгоддзяў. У некаторых месцах расце ўжо лес, а ў рэестры яшчэ не ўпісаны ён .

Члены партыі на справаздачна-выбарчым сходзе абмяркоўваюць дзейнасць партыйнай арганізацыі, падкрэсліваюць яе дасягненні і недахопы, гавораць аб усіх тых справах, якія хвалююць іх вёску. Гэта датычыць і пабудовы вясковай крамы, і меліярацыі сенажацяў, і п'янства сярод насельніцтва, і неабходнасці існавання сельгасгуртка, і ролі партыйнай арганізацыі на вёсцы і іншыя.

Адным словам, усімі справамі цікавіцца падставовая арганізацыя.

### ВОДНАЯ СУПОЛКА ІМЯ ЮРЫЯ ГАГАРЫНА

Водная суполка імя Юрыя Гагарына ў Гарадку аб'ядноўвае больш як 680 гаспадароў з 9-ці вёсак, а менавіта: сялян з Гарадка, Белявіч, Страшава, з вёскі і каленіі Меляшкі, Падазеран, Дзернякова, Веек і Зарэчан. Гаспадары гэтых вёсак вельмі добра пераканаліся ў тым, якую вялікую карысць прыносіць меліярацыя сенажацяў і іх загаспадараванне. Да гэтага часу ў даліне Верхняй Супраслі праведзена меліярацыя на 732 га. Загаспадаравана 939 га. Перад меліярацыяй гаспадары з аднаго гектара атрымоўвалі 10—12 цэнтнераў. Пасля меліярацыі ў сярэднім ураджай сена павысіўся ў 7, а ў некаторых месцах у 8 разоў. У тых вёсках, дзе ўжо гаспадары карыстаюцца змеліяраванымі і загаспадараванымі сенажацямі, значна павысілася жывёлагадоўля. На 100 га зямельных угоддзяў да меліярацыі атрымоўвалі 29,9 штук быдла, пасля меліярацыі — 68 штук. Гэта ў асноўным датычыць сялян з Гарадка, Белявіч і Страшава. А калі больш быдла, значыць больш малака, масла, мяса. Больш таксама натуральнага ўгнаення, а за гэтым усім ідзе ўздым матэрыяльнага становішча сялян. Сенажаці і пашы ўпамянутых вышэй вёсак займаюць 2 587 гектараў. Водная суполка, якую ўзначальвае кіраўнік сямікласнай школы ў Гарадку. Павал Кандрусік, пакладае шмат намаганняў, каб ўсе сенажаці і пашы былі як мага хутчэй змеліяраваныя і загаспадараваныя.

### У ГРАМАДЗЕ МІХАЛОВА

Прэзідыум грамадскай рады нарадовай у Міхалове належна апякуецца старымі людзьмі, якія зусім не

(Працяг на стар. 4.)




Званіца ў вёсцы Семяноўка, Гайнаўскага павета.
Фота Г. Рагазінскі

## РЭФЛЕКСІІ НАД СУЧАСНАСЦЮ ВЁСКІ

# Прыгалуб мяне, маменька родная

«Прыгалуб мяне, маменька родная. Я ж хлопчык яшчэ маленькі. Прытулі мяне хоць разок, пагладзь па галоўцы і раскажы мне казку. Прыгожую казку аб добрай маме і дрэннай мачасе, аб добрым сыне, які за сем гор і рэк ішоў па жывую ваду для хворай маці. Я так люблю казкі. У казках усё добранькае такое і прыгожае. Толькі чараўніцы ды мачахі бываюць дрэннымі. А ў нас не так, у нас усе дрэнныя: і дзядзька Антон, які пужае мяне сабакамі, і татка, які выганяе мяне рана пасці каровы, і нават ты, маменька, ходзіш заўсёды надзьмутая і злосная, увесь час крычыш на мяне і б'еш так часта. І не хочаш купіць мне ніколі нічога, на кніжкі грошы шкадуеш. Гаворыш, што каб я быў лепшы, то ўсё было б, а так то толькі кія на мяне трэба.

Я хацеў бы, вельмі хацеў бы, маменька, добрым быць, толькі не ведаю, як зрабіць гэта. Хацеў бы да ўсіх усміхацца, і каб да мяне ўсміхаліся ўсе, і часам мяне пахвалілі.

Ты памятаеш, маменька, як на Дзень Жанчын хацеў я табе ўручыць намаляваную мною прыгожую кветку з надпісам: «Сваёй маме», а ты так грозна глянула на мяне і сказала, што няма часу глупствамі займацца.

Толькі чаму не ўсе мамы такія? Чаму цёця Аня з Беластока толькі аб сваім Толіку і гаворыць? А калі прыедзе да нас, сама яму есці падносіць, на калені саджае, хваліць, што такі разумны.

Памятаеш, як я хацеў, каб ты пайшла на апошні бацькоўскі сход у школу. Я тады меў па задачах пяцёрку і настаўнік хваліў мяне вельмі. А ты сказала толькі: «Чаго там пайду, каб за такога балвана сораму перад людзьмі наесціся». І не пайшла. З таго часу я ўжо больш не меў пяцёркі. А мог бы. Толькі не хочацца. А ў канцы буду мець усе двойкі. На злосць табе.

Ты кажаш, што я кепскі, што з усімі «дзяруся» і сваволю, што проста — дурань. А як быць добрым, калі кругом усе дрэнныя: і дзядзька Антон, і татка, і дзеці на вуліцы. Каб хаця ты, маменька, добрая была. А так нічога. Ну нічога. Вось ўжо бачу. Максім да хаты прыехаў. Пайду сабак дражніць. Ай, злосны будзе стары хрыч. Ай-я-яй»...

*

Дзядзьку Максіма лічу найразумнейшым чалавекам у нашай вёсцы. Бачыў многа свету, прачытаў шмат кніжак. Люблю гутарыць з дзядзькам Максімам, люблю з ім далікатна паспрачацца. Сядзем за стол, дзядзька Максім прыгладзіць сукаватаю далоняю рэдкія валасы,

(Працяг на стар. 4)

Маёр доўга і задуменна глядзеў на карабок запалак, што ляжаў на стале, а пасля, лёгка дакрануўся да рукі Налепкі:

— Вы разумны чалавек. Ці не адказалі б вы на адно маё пытанне?

— Калі ласка, пане маёр.

— Скажыце, чаму не ўмеюць ваяваць вашы славакі?

Пытанне гэта не было для Налепкі нечаканым. У Налепкі ўзнікла гарачае жаданне кінуць маёру праўду ў вочы. Хай аслепне, хай падавіцца ёю!

— Славакі ўмеюць ваяваць, — адказаў Налепка, — толькі няма з кім ваяваць.

Маёр Гірнер вылупіў на Налепку свае спалоханыя вочы. Яму здалося, што Налепка глядзіць на яго з нянавісцю і агідай. Ён хацеў схавацца ад яго позірку і засланіў далонню свой шрам на твары. Маёр пакруціўся на стуле, хацеў устаць і пайсці, але позірк Налепкі нібы прыкаваў яго да зямлі, загадваў застацца на месцы.

Налепка адчуваў, што перасаліў. Ён бачыў, што маёр яшчэ не настолькі п'яны, каб не зразумець яго намёку. Ён раскрыў яму карты. А фашысты павінны пакуль што верыць яму. Налепка рашыў задобрыць маёра.

— Разумееце, пане маёр, мы яшчэ не бачылі партызан і таму нам няма з кім ваяваць. Я запэўняю вас, — дадаў Налепка, — што славакі будуць ваяваць.

25

Маёр Гірнер глыбока ўздыхнуў і дапіў рэшткі каньяку.

— Так, — сказаў ён, кладучы па-прыяцельску руку на плячо Налепкі. — Ты харошы, вельмі харошы, франтавы сябра.

Налепка ўзяў з суседняга стала пляшку польскай гарэлкі, наліў і падаў чарку маёру:

— Вельмі рады, што вы прыехалі да нас у Оўруч. — Даруйце нам учарашняе непаразуменне. Я маю на ўвазе тую непатрэбную сутычку. Мае салдаты прынялі вашых за партызанаў і адкрылі па іх агонь.

Твар маёра Гірнера пасвятлеў. Яны абодва засмяяліся, а ў маёра аж слёзы выступілі на вочы. Ён выцер рукой вочы, даверліва паляпаў Налепку па плячы і махнуў рукой.

— Глупства. Ці тое яшчэ здараецца на франтах? Асабліва тут, на гэтым праклятым фронце, дзе ваюеш з бандытамі, а не з рэгулярнай арміяй. Хіба гэта вайна?

На апошніх словах ён асекся. Успомніў сваю размову з Кохам, які прасіў яго пільна сцерагчы чыгунку.

— Не, — шапнуў ён Налепку, — і тут будзем ваяваць. З панядзелка пойдуць эшалоны.

— Адным словам, трэба ўзмацняць ахову чыгункі, — перабіў яго Налепка.

26

— Так, так трэба ўзмацняць ахову, — паўтарыў маёр. — Спадзяюся на вашу ініцыятыву.

Маёр Гірнер устаў і падаў Налепку руку. Той шчоўкнуў абцасамі і схіліў галаву:

— Дзякую за давер'е. Усё будзе ў парадку.

Маёр яшчэ раз паціснуў яму руку. Ён паўгода ўжо чакаў звання падпалкоўніка і спадзяваўся, што гэты чалавек дапаможа яму атрымаць нарэшце гэтае званне. Эшалоны трэба абараняць ад бандытаў, і славакам даручан немалы ўчастак.

— Спадзяюся, што вы заспяваеце нам хутка вясялейшую песню.

Налепка задушыў у сабе смех і горача сказаў:

— Заспяваю вясёлую, пане маёр!

Па поўначы настрой у нямецкай афіцэрскай сталовай упаў, толькі Налепка быў бадзёры і падліваў увесь час гарэлку обер-лейтэнанту Браўнісу, які ўжо ледзь лыпаў вачыма.

— Вы казалі, што перакінулі ўчора да партызан свайго разведчыка, — пачаў Налепка. — Прозвішча яго Біненка?

Обер-лейтэнант інфармацыйнай службы вермахта Браўніс мнагазначна ўсміхнуўся.

— Дайце мне сігарэту і я раскажу вам.

Налепка курыў заўсёды люльку. Ён устаў, падышоў да суседняга стала і шапнуў паручніку Паўліку:

(Працяг на стар. 7)

27



# ГАЗЛІ

«Газлі» па-узбецку абазначае «месца газу». Яно аказалася не простым месцам, а адным з буйнейшых на свеце месцараджэнняў газу з запасамі ў пяцьсот мільярдаў кубаметраў. Каб знайсці яго неабходна была тытанічная праца савецкіх геолагаў, скалясіўшых агромныя прасторы пустыні.

Газ знойдзены не толькі непадалёк старажытнай Бухары, але і ў Мубарэку, Кагане, Джаркацы. Агромныя тэрыторыі ад Аральскага мора да граніц Аўганістану аказаліся, як лічаць спецыялісты, вельмі перспектыўнымі і геолагі назвалі іх Бухара-Хівінскай правінцыяй. Узбекістан цяпер — рэспубліка не толькі бавоўны, але і прыроднага газу. Ён ідзе ўжо ў дзесяткі гарадоў рэспублікі — Ташкент, Самарканд, Бухару, Бегавот і іншыя.

З Бухары на Урал за два наступныя гады будзе праведзены газаправод. Ужо звараны першыя дзесяткі кіламетраў труб дыяметрам у адзін метр.

Уралу з горнай і каляровай металургіяй, хіміяй, энергетыкай, прамысловасцю будаўляных матэрыялаў, з яго многімі гарадамі не хапае свайго уральскага вугалю. Толькі за адзін мінулы год адпраўлена на Урал трыццаць пяць мільёнаў тон (у перакладзе на ўмоўнае паліва) вугалю. Сорак працэнтаў паліва расходаванага Уралам у мінулым годзе выпала на долю прывазнога. Як быць? На выручку ідзе газлінскі газ.

Даўжыня дзвюх нітак ўключаючы асобныя паралельныя ўчасткі перавышае 4400 кіламетраў. Зараз на свеце няма такой велічыні газаправодаў. Магістралі газу перашагнуць больш пяцісот рэк і каналаў. Будаўнікам прыдзецца адалець больш як чатырыста кіламетраў скальных участкаў.

Значная частка трасы непраходная для аўтамашын. У ход пойдуць верталёты і танкі.

Упершыню на свеце для пабудовы газаправода выкарыстоўваюцца на ўсёй трасе трубы небачанага вялікага дыяметра — 1020 міліметраў. Гэта дазволіць перадаваць па дзвюм лініям дваццаць адзін мільярд кубаметраў газу ў год, што адназвартасна па цеплатворчасці больш трыццаці мільёнаў тон вугалю. Іншымі словамі, прыродны газ, які атрымае Урал з аднаго толькі Газлі, заменіць усю тую колькасць вугалю, якая зараз прывозіцца сюды.

Капітальныя ўлажэнні на будоўлю газаправода Бухара - Урал акупяцца прыкладна ў чатыры гады.

**На здымку: у раёне Газлі вырваўся з-пад зямлі фантан прыроднага газу.**

# ГОЛЬДЭН РАБЭРТА

Гольдэн Рабэрта — правадыр анголскіх паўстанцаў, якія змагаюцца супроць партугальскага каланіялізму.

Паўстанцы Анголы рэкрутуюцца ў асноўным з насельніцтва паўночнай Анголы. Галоўная сядзіба Рабэрта знаходзіцца ў Леапальдвіль, адкуль лягчэй утрымоўваць сувязь з цэлым светам і арганізаваць дапамогу для паўстанцаў. Узбраенне паўстанцаў у асноўным складаецца з бельгійскай зброі, якую можна купіць на чорным рынку ў Конга. Партугальцы акружаюць вёскі, здзекваюцца і расстрэльваюць усіх мужчын, жанчын і дзяцей. Многія анголцы са зброяй у руках супрацьстаўляюцца партугальскім варварствам, многія таксама ўцякаюць са сваёй краіны.

У слаба заселеных вёсках Ніжняга Конга знаходзіцца ўжо больш ста тысяч анголскіх бежанцаў. І ўсе яны лічаць сваім правадыром Гольдэна Рабэрта.

Гольдэн заявіў, што ніякія крывавыя рэпрэсіі партугальцаў не паўстрымаюць паўстанцаў ад барацьбы. Яны будуць весці барацьбу да таго часу, пакуль не даб'юцца свабоды. Істотным элементам партызанскай вайны з'яўляецца бесперапыннае нішчэнне ўсіх мастоў і дарог, якія вядуць у паўночную Анголу. Трыццацішасцігадоваму Гольдэну Рабэрта, як ён сам заяўляе, свеціць прыкладам непахісная барацьба з каланізатарамі Патрыса Люмумбы. І трэба верыць, што анголскі народ пераможа сілы каланізатараў і даб'ецца незалежнасці сваёй краіны.

# Калі родзяцца геніі?

Існуе шырока распаўсюджаная думка, што геніяльныя таленавітыя людзі родзяцца ў першыя гады пасля жаніцьбы бацькоў.

Свайго часу нямецкі вучоны пастанавіў праверыць, супадае гэтая думка з рэчаіснасцю ці не. Пасля доўгіх статыстычных доследаў ён прышоў зусім да іншых вывадаў. Аказалася, што большасць агульнапрызнаных геніяў і талентаў паявілася на свет у ліку апошніх дзяцей у сем'ях. Напрыклад, В. Франклін быў семнаццатым дзіцём у сваіх бацькоў, І. Мечнікаў — шаснаццатым, Ф. Шуберт — трынаццатым, Г. Вашынгтон — адзінаццатым, Сара Вернер — адзінаццатым, К. Вебер — дзевятым, Напалеон — восьмым, П. Рубенс і Р. Вегнер — сёмым дзіцём.

З сямідзесяціпяці знатных людзей, біяграфіі якіх вывучыў даследчык, толькі пяць нарадзілася незадоўга пасля шлюбу іх бацькоў. Гэта былі: Леанарда да Вінчы, Г. Гейне, Д. Мільтон, Брамс і А. Рубінштэйн.

Як бачым даныя прыведзеныя вучоным вельмі цікавыя. Аднак, як вынікае з гэтага, няма ніякай заканамеранасці ў пытанні ў нараджэнні геніяў і талентаў.

# Усякая ўсячына

Нядаўна ў Гельсінках да турэмнага зняволення быў прыгавораны нейкі Хакконен. Але зараз аказалася, што не толькі ў сталіцы, але ва ўсёй Фінляндыі, няма камеры, у якой бы мог знаходзіцца злачынец, таму што яго вышыня была два метры і дваццаць чатыры сантыметры.

Пасля доўгай нарады суд рашыў звольніць Хакконена, таму што ўсе турмы занізкія для яго. А будаваць новую камеру для гэтага злачынца суд прызнаў немэтазгодным.

166 мільёнаў кубаметраў зямлі перамешчана пры будаўніцтве самай буйнай у свеце Волжскай гідраэлектрастанцыі імя XXII з'езда КПСС. Каб перавезці гэтую масу грунту, спатрэбілася б 126 тысяч таварных саставаў. Па даўжыні яны занялі б 93 тысячы кіламетраў, або два разы апаясалі б зямны шар па экватары.

Шлюб Роа Ёнэса ў касцеле метадыстаў у Каіры (над Місісіпі) адбываўся згодна са звычаем да таго часу, пакуль пара не стала на калені перад алтаром. Тады сярод прысутных наступіла сільнае парушэнне. На падэшвах маладога віднела надпісь «Ратуйце!». Аказалася, што гэта быў жарт маладога брата, які не паважаў сваёй будучай братовай.

# Карысна ведаць

Рэчы з фланелі або шэрсці будуць прыгожа выглядаць пасля мыцця, калі ў ваду для паласкання дадаць крыху гліцэрыны (сталовая лыжка на 10 літраў вады).

*

Старая шэрсць з распушчаных панчох, шалікаў і іншых вязаных рэчаў будзе мяккая і пушыстая, калі яе зматаць у клубкі, затым пакласці ў каструлю з халоднай вадой і пакінуць на ноч. Раніцай каструлю паставіць на агонь, давесці ваду да кіпення і адразу ж зняць з агню. Калі вада астыне, клубкі выціснуць і высушыць на скразняку. Пасля таго, як зверху клубкі высахнуць, іх трэба пераматаць, каб сухія ніткі аказаліся ўнутры клубка, а мокрыя зверху. Такім чынам вельмі хутка ўвесь клубок стане сухім.

*

Калі ногці лёгка ламаюцца, час ад часу канцы пальцаў апускайце ў размякчанае мыла.

# МАРСКІЯ КОЦІКІ

Марскія коцікі, са скур якіх вырабляюць цудоўныя футры, належаць да сям'і вушатых цюленяў. Паўгода, зімою, жывуць яны ў моры і паўгода, летам, на логвішчах. На свеце вядомы тры буйныя логвішчы: два савецкія, на астравах Цюленнім і Камандорах і амерыканскае на астравах Прыбылава на пабярэжжы Аляскі.

У сярэдзіне мая на ўсходнім беразе паяўляюцца першыя самцы — разведчыкі. Потым прыплываюць самкі. Не праходзіць двух альбо трох дзён, як кожная самка абзаводзіцца дзецюкамі. Дарослыя самцы-секачы хутка падбіраюць сярод самак сяброўак, і пляжа раздзяляецца на тысячы гарэмаў. А збоку, не падыходзячы да гарэмаў, размяшчаюцца маладыя самцы - халасцякі, у якіх нехапае сілы, каб адбіць у секача самку і самому абзавесціся гарэмам і магчы адстаяць яго. У гэты час, то тут, то там успыхіваюць крывавыя схваткі паміж «заздроснымі» уласнікамі гарэмаў. Часам дастаецца і «лёгкадумнай» самцы, якая заўсёды «флірт» з чужым самцам.

Праз дзве нядзелі жорсткі перыяд гарэмаў канчаецца, і самкі пачынаюць праяўляць больш клопатаў аб падрастаючым пакаленні.

Маладзенькія коцікі харчуюцца малаком, а ў канцы лета рыбай. У лістападзе каля берагоў Цюленняга паяўляецца першы лёд, коцікі адплываюць на поўдзень. У чэрвені і ліпені праходзіць забой коцікаў, забіваюць трох- і чатырохгадовых коцікаў, бо толькі ў тых коцікаў футры найвышэйшай якасці.




Што варты малады чалавек, які не ўмее танцаваць! У моладзі самая прыемная разрыўка — гэта ж забава. На вяселлі таксама, калі не ўмееш танцаваць нявесела, а нават непрыемна. Дзяўчаты такога кавалера не паважаюць, пазбягаюць яго. Прыкра слухаць, як многія прыгажуні захапляюцца добрымі танцорамі. Не кожны зразумее, колькі засмучэння, колькі розных думак праплыве праз галаву толькі з-за таго, што не ўмееш танцаваць. Пішу я аб сабе. Жыву я на вёсцы. Маю шмат сяброў. Усюды мы ходзім разам, усюды мне весела з імі. А вось калі ў вёсцы забава, я адчуваю сябе так самотна, што цяжка гэта апісаць. Тады і Марына (гэтак завецца тая, якую я пакахаў), горш да мяне адносіцца. І мне здаецца, што не паспею выявіць для яе ўсіх сваіх пачуццяў, таму што з-за няўмення танцаваць яна не захоча са мною спатыкацца. От гора, ей богу, хоць не жыві на свеце.

**Вадзім**
Гайнаўскі павет

**Паважаны Вадзім. Ты здаецца пераймаешся тым, як гаворыш, сваім недахопам. Чалавека цэняць і паважаюць перш за ўсё за яго чалавечнасць, за яго станоўчы характар, ніколі за танцы. Вядома, што табе было б весялей на забавах, каб ты танцаваў. Але гэта зусім не значыць, што дзяўчаты ацэньваюць маладога чалавека па тым, як ён танцуе. А калі так здараецца, дык гэта толькі ў лёгкадумных. Мне здаецца, што як падружыце па-сапраўднаму з Марынай, дык яна навучыць цябе танцаваць. Адным словам, з-за танцаў не трэба падаць духам.**
**СЭРЦАЙКА**




### БЯДА І ГОДЗЕ

Аднаго вядомага італьянскага рэжысёра, які працаваў са шматлікімі кіназоркамі, запыталі, з якой яму найлепш працавалася.

— З якой? Вазьміце ўкусіце па чарзе дванаццаць лімонаў і скажыце, каторы быў найсаладшы.

# НЕЗАСЛУЖАНЫ ДАКОР

Ад сяброў дакор я часта чую:
— Безгустоўны ты, што ні кажы!
Закахаўся ў дзеўчыну такую —
Сам не глянь, людзям не пакажы.
Колер воч — зялёны, нос — кірпаты,
А па ім — вяснушкі, нібы мак...
І прыгожых ёсць дзяўчат багата!
Што ж прыліп да непрыгожай так?
Я ж душой той дзеўчыне адданы
І адно кажу сябрам сваім:
— Хто б не ў твар ёй, а у сэрца
глянуў —
Стаў бы ўраз сапернікам маім.

Мікола Танковіч

## БАРАНОЙ ПА ПУСТАЗЕЛЛІ

Як думаеце, мілыя чытачы, мае чалавек права ў нашай народнай краіне памыцца? Скажаце: зусім недарэчнае пытанне. Зразумела, што мае.

Не тут то было. Запытайце аб гэтым жыхароў Белавежы, яны вам іншае скажуць. Праўду кажучы, права яны маюць. Але што па такім праве, калі рэалізаваць яго няма магчымасці. Добра яшчэ летам, калі нагрэтая сонейкам Нараўка весела забурліць у балоцістых берагах. Ідуць да яе Белавежцы і плюхаюцца сабе як гусі. Рака, хоць і невялічкая, а ўсё ж можна абмыць у ёй грэшнае цела. Але зімой не палезеш у халодную Нараўку. Скуе яе лёдам, засыпле снегам, не даступішся. Адна развязка ў лазні. 5 год назад Белавежцы грамадой прыступілі да яе пабудовы.

Але што ж, самі жыхары Белавежы не ў сілах пабудаваць гэтага патрэбнага мерапрыемства. Абяцанай дапамогі «зверху» чакаюць 5 год і ўсё надарма. Гаспадар Белавежы, прэзідыум ГРН, таксама не праяўляе ў гэтай справе ніякага клопату. Ім мыцца не трэба. Іх вымыюць людзі перад выбарамі. А выбары, як вядома, прадбачваюцца не хутчэй, як за два з паловай гады. Так што спяшаць няма патрэбы. Няхай пачакаюць жыхары Белавежы.

### ІНСТЫТУТ ПРЫГАЖОСЦІ



— Ці зможаце з маёй жонкі зрабіць стройную жанчыну?
— Не, хутчэй стройнага мужчыну.



АБСТРАКЦЫЯНІСТ НА МАРСЕ



— Адзінае, што нам засталося, каб дацягнуць да святочных канікул, гэта злапаць добры грып!











ЛЁС ЧАЛАВЕКА...




### НА РЫНКУ КОНЕЙ

— Ці ён толькі не палахлівы? — пытае Нупрэй гандляра.

— Не, што вы. Толькі на дрэва нізашто не палезе.

— А навошта мне, каб ён на дрэва лазіў? — сказаў Нупрэй і купіў каня.

Аднойчы давялося яму пераязджаць раку. А там драўляны масток. Перад мастком конь запёр нагамі і нізашто не хоча ісці.

Тут Нупрэй зразумеў, што гандляр казаў праўду.

Федзя Міхалюк
Койлы

### ЗАПЛАТА

Быў аднойчы вельмі скупы чалавек. Зайшоў да яго сусед і пацягнуў носам.

— Не нюхай, — кажа той. — Гэта маё паветра, бо ў маёй хаце. А што маё, дык я дарма не аддам.

— Як табе шкада паветра, то я заплачу, — кажа сусед.

У скупога засвяціліся вочы. А сусед выняў кашалёк з грашыма і пачаў дзвэнкаць.

— Як табе гэтага мала, то яшчэ падзвэнкаю.

Антаніна Лукашук
Пасечнікі М.

### ЯШЧЭ МЕЎ УКРАСЦІ

Суддзя: — Скажыце, калі ласка, колькі мяшкоў пшаніцы ўкралі вы суседу?

Абвінавачаны: — Сем, пане суддзя: у чацвер тры, а ў пятніцу два.

Суддзя: — Дык разам пяць. А дзе яшчэ два мяшкі?

Абвінавачаны: — Сёння меў украсці два, пане суддзя.

Марыя Хмель
Вітава

### ЧАГО ШУКАЕ

Муж пасварыўся з жонкай. Не гавораць яны з сабой тыдзень, другі, месяц. І ўсё чакаюць, хто адазвецца першы. Аж муж пайшоў на хітрыкі. Ён пачаў заглядаць у сундук, пад ложак, у печ, перавярнуў усё ў шафе.

— Чаго ты шукаеш? — не вытрымала жонка.

— Твайго языка. А ён бач, паганы, у рот да цябе забраўся, — адказаў муж.

Яўгіня Глэмбоцкая
Грыбоўшчына

### МОЖА ПАТРАБАВАЦЬ

Прыйшоў хлапец да будучага цесця і кажа:

— Магу патрабаваць ад вас, каб выплацілі мне пенсію.

— За што? Якую? — здзівіўся той.

— Я ж ужо 15 год хаджу да вашай Марусі.

Коля Янюк
Барысаўка

# СВАЯК

Дзесяць зім не бачыў Якуб швагра. Нават забыў, як ён выглядае, аж раптам нечакана давялося сустрэцца са шваграм.

Карацей кажучы, сустрэча іх адбылася паводле прымаўкі: гара з гарою... а прычынай тэтаму былі дровы. Мо' не так дровы, як іх адсутнасць у Якубавай гаспадарцы. Вельмі ж усхвалявала Якуба пустэча на яго дрывотні. Зіма на носе, мароз не за гарамі, а распаліць печ, хоць ты плач, няма чым. Селянін любіць зімой на цёплай печы паляжаць.

Выбраўся Якуб да ляснічага паталкаваць аб дровах. У ляснічага людзей і без Якуба хапае, а выпісвае ён па чарзе. Сядзіць Якуб на сухой калодзе, чаргі сваёй чакае, аж бачыць, нехта знаёмы, у мундзіры ляснога стоража, ідзе. Прыгледзеўся Якуб, бачыць швагер Пятро. Узрадаваўся Якуб ды сам не ведае чаму больш: швагру ці яго зялёнаму мундзіру. Ну вядома, яны расцалаваліся па - нашаму.

— Лясным сторажам накіравалі сюды часова, — кажа Пятро.

— Цудоўна, — захапляецца Якуб, а сам аб дровах правіць.

— З дровамі тугавата. — кажа швагер. — Ляснічы выпісвае толькі нашым вазакам і лесарубам. Эквівалент за работу.

— І ўсё ж такі, пры тваёй дапамозе мне выпіша, хоць я і не вазак? — цікавіцца Якуб. — Мы ж сваякі.

— Бачыш, лес то дзяржаўны. А тое, што мы сваякі, гэта справа зусім прыватная, — тлумачыць швагер.

— Як жа так, дзесяць год мы не бачыліся, а ты нават 10 метраў дроў не дапаможаш мне набыць?

— Значыць, норма твая метр за год? — ядавіта пытае швагер.

— А што?

— Ты вось што. Папрацуй пры вывазцы, а тады ўжо едзь па дровы. Конь жа ў цябе, бачу, як звер.

— Дзесяць год чакаў на такую раду, — злосна адказаў Якуб і, не развітаўшыся, пайшоў да каня.

Ад'ехаў Якуб з паўвярсты і звярнуў у лес. А тут штабелі сухенькіх дроў, ну проста самі на воз просяцца.

Выехаў Якуб на дарогу з грузам, бачыць, швагер чакае.

— Дровы бачу, а квітанцыю дык ты ўжо сам пакажы, — папрасіў ён.

— Значыць па-сваяцку? — пытае Якуб.

— Не, па службе, — адказвае швагер, бярэ за лейцы і заварочвае каня ў напрамку леснічоўкі.

Людзі добрыя! Сваяцтва, справа важная, але доўг перад дзяржавай больш важнейшы.

Дзядзька Лявонь